**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№48(660)**
**29 лістапада 2012 года.**
**Кошт свабодны.**




*Працяг на стар. 6.*

Глыбоцкі раён

# І на алеі алімпійскай славы

■ Станіслаў Раманчук

**Аднымі з самых няўдалых у айчыннай гісторыі спорту сталі гульні апошняй ХХХ летняй Алімпіяды ў Лондане. Віцебская вобласць зусім засталася б без заваяваных медалёў, каб не выдатнае выступленне 22-гадовай глыбачанкі Марыны Шкерманковай.**

У спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы маладая спартсменка, майстар спорту міжнароднага класа заваявала бронзавы медаль у вагавай катэгорыі да 69 кг, першы для зборнай Беларусі на Гульнях. Аднак 7 гадоў назад таленавітая дзяўчына была лепшай у Беларусі ў … лёгкаатлетычным шматбор'і. А калі стала вучыцца ў абласным вучылішчы алімпійскага рэзерву, выбрала гэты сілавы від і як цяжкаатлетка заваявала дагэтуль 22 медалі рознай вартасці. Канешне, узнагарода лонданскай пробы – гэта выдатнае дасягненне, пасля чаго імя Марыны стала красавацца на абноўленай Дошцы гонару Глыбоцкага раёна. Як і абяцалі пасля алімпійскага трыумфу, позняй восенню сімвалічны бронзавы медаль-знак М. Шкерманковай урачыста, пад фанфары і невялічкі феерверк быў адкрыты на алеі Алімпійскай славы Віцебшчыны ў прысутнасці запрошаных з Глыбокага бацькоў гераіні, якія працуюць на мясцовым МКК. На хвалюючую цырымонію сабраліся афіцыйныя асобы, спартсмены і моладзь, заслужаныя спартсмены, якія пажадалі славутай алімпійцы новых перамог. Яе імя з'явіцца і ў новым перавыданні кнігі "Віцебшчына алімпійская". Як прызналася сама Марына, яна яшчэ ў школьныя гады крыху марыла стаць нават алімпійскай чэмпіёнкай. У яе ўсё яшчэ наперадзе, і верыцца, што на далейшай дарозе спартыўнай кар'еры будуць новыя яркія дасягненні і перамогі на памосце.

Пастаўскі раён

# Цемра – саюзнік злодзея

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам паўсюдна па краіне практычна штодзень фіксуюцца розныя вялікія і дробныя крадзяжы маёмасці.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе ,праўда, сёлета стала меней на 42 крымінальныя злачынствы, меней распачата спраў па такіх цяжкіх і асабліва цяжкіх выпадках. Аднак з лавінай крадзяжоў і ў гэтым даволі спакойным рэгіёне не ўдаецца справіцца, хоць іх стала раскрывацца болей. А вось дёрзскае абрабаванне складоў каапгандлю № 1 у райцэнтры набыло грамадскі рэзананс. У той дзень глыбокай ночку, што цікава, каля дзвюх гадзін міліцыя наведала аб'ект і вартаўнік паведаміў, што ўсё спакойна. Аднак дзесьці пад раніцу сюды наведаўся зламыснік, а хутчэй усяго група злодзеяў, якія справіліся з замкамі і забралі з сабой каньяку, гарэлкі і закускі да іх на суму 7 млн. рублёў. Пасля гэтага здарэння райаддзел міліцыі выставіў кіраўніцтва райпа прадпісанні аб тэрміновым тэхнічным узмацненні яшчэ 30 аб'ектаў гандлю. Адначасова і кіраўніцтва раёна запатрабавала ад суб'ектаў гаспадарання тэрмінова на ўсіх фермах, на мехмайстэрнях, складах гаспадарак устанавіць уязныя вароты, якія павінны быць на замку, палепшыць асвятленне ахоўваемых аб'ектаў. Дарэчы, сёлета на Пастаўшчыне было скрадзена адразу 18 калгасных цялят, але з дапамогай аператыўнікаў з абласнога цэнтра выявілі і затрымалі групу злодзеяў-гастралёраў, у якую ўваходзілі 2 жыхары Докшыцкага і адзін Барысаўскага раёнаў.

Шаркоўшчынскі раён

# У бронзе і ў вясковым музеі

■ Чэслаў Якубовіч

**Адыходзячы год падараваў аматарам мастацтва і творчасці славутага мастака Язэпа Драздовіча прыемную падзею.**

Дагэтуль імя і матэрыялы аб жыцці гэтага геніяльнага жывапісца, этнографа, фалькларыста, найбольш поўна былі прадстаўлены ў музеі мястэчка Германавічы, што ў Шаркоўшчынскім раёне. Ён паўстаў 20 гадоў назад у былой мясцовай школе, экспазіцыя размясцілася на яе другім паверсе і сабрала 42 карціны і славутыя дываны на чорным палатне, якімі цікавяцца ў карціннай галерэі сусветна вядомага музейнага комплексу ў французскім Луўры. У былым панскім доме стварылі ўнікальны народны музей сялянскай культуры і быту па ініцыятыве тагачаснай школьнай настаўніцы і грамадскага дзеяча Ады Райчонак. Дзякуючы нераўнадушным людзям удалося сабраць і больш 70 ксеракопій графічных работ вядомага беларускага мастака, які актыўна цікавіўся і астраноміяй, жыццём на іншых планетах, чарціў схемы руху нябесных касмічных караблёў. Пры яго жыцці многія не разумелі вобраз паводзін даволі беднага творцы, які разлічваўся за начлег альбо харчы сваімі дыванамі-маляванкамі. Цікавейшую экспазіцыю цяпер можна тут пабачыць, як і шматлікія сабраныя экспанаты аб жыцці нашых продкаў. Мінулай восенню светлы вобраз Я. Драздовіча навечна стаў увекавечаны і ў скверы знакамітых землякоў у суседнім Глыбокім, калі туды завітала чарговае свята Дня беларускага пісьменства.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.11.12 | | | | Пятніца 30.11.12 | | | | Субота 01.12.12 | | | | Нядзеля 02.12.12 | | | | Пнд.03.12.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | +6 | +5 | +6 | +5 | +5 | +6 | +5 | +4 | +2 | +2 | +1 | -1 | -1 | 0 | -1 | -3 | -1 | 0 |
| Ціск | 737 | 735 | 733 | 732 | 731 | 730 | 732 | 733 | 737 | 740 | 742 | 744 | 745 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 |
| Вільготнасць | 98 | 96 | 96 | 94 | 96 | 95 | 96 | 94 | 93 | 89 | 81 | 88 | 91 | 90 | 73 | 83 | 87 | 85 | 80 |
| Вецер м/сек | 1 В | 3 В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 3 Ю-В | 3 В | 1 В | 1 Ю-З | 5 З | 3 З | 3 З | 3 Ю-З | 1 З | 1 Ю-З | 2 Ю-З | 4 Ю-З | 2 Ю-З | 1 Ю-З | 1 З |

# Аб самым надзённым

## Парламенцкія выбары ва Украіне ўжо істотна адрозніваюцца ад аналагічных у суседзяў



■ Аляксандр Цішкевіч

**Ва ўкраінцаў было за што змагацца і той жа Віктар Януковіч добра разумее, што ключ для росквіту яго краіны ляжыць не на расійскіх прасторах, а ў цесным супрацоўніцтве са значна больш тэхналагічным і прасунутым Захадам.**

Услед за нашай завяршылася толькі днямі выбарчая кампанія па абранні Вярхоўнай Рады ва Украіне, хоць само галасаванне ў нашых суседзяў прайшло 28 кастрычніка. Аднак пасля гэтага ўкраінскі ЦВК амаль два тыдні падводзіў іх вынікі. Калі яны былі там агучаны, аднак усе 450 украінскіх дэпутатаў не былі выбраны. Як вядома, у 5 акругах прыкладна ў сакавіку 2013 года прызначаны перавыбары з-за немагчымасці ўстанавіць праўду з падлікам галасоў і выяўленых масавых фальсіфікацый.

Ужо сам гэты факт сведчыць аб тым, наколькі ўкраінцы адарваліся ад нас ды і ад матухны- Расіі ў пытанні правядзення выбараў не "пасавецку", значыць з прадказальным вынікам. Праўда, ва Украіне сёлета іх вынікі маглі б быць яшчэ больш сумныя для правячай там эліты і самога В. Януковіча. Аднак яны здолелі вярнуць сабе ранейшую прапарцыянальна-мажарытарную сістэму шляхам вяртання да старой Канстытуцыі і надзялення большымі паўнамоцтвамі "моцнага" прэзідэнта. Сама ж выбарчая сістэма ва ўкраінцаў вярнулася да ранейшай схемы: 50 % дэпутацкіх месц выбіраецца па партыйных спісах і столькі ж па мажарытарных акругах.

Як зазначаюць палітолагі, каб правілы гульні не памяняліся ў суседзяў, то правячую большасць у парламенце маглі б сфарміраваць прадстаўнікі апазіцыі. Па адных партыйных спісах правячая "Партыя рэгіёнаў" разам з саюзнікамі-камуністамі разам мелі б меней мандатаў, чым кааліцыя "Батькіўшчыны", партый Уладзіміра Клічко "Удар" і нацыяналістычнай "Свабода". Аднак з улікам мажарытарных (як у Беларусі) акруг у новай Вярхоўнай Радзе ў рэгіяналаў аказалася 185 месц, камуністы заваявалі 32 мандаты і працягнуць правіць.

Разам з тым, гэта сіла мае падтрымку толькі на ўсходзе Украіны, паколькі пра захад гаворка не ідзе, а цэнтральныя вобласці і - самае галоўнае – украінская сталіца Кіеў поўнасцю адмовілі рэгіяналам В. Януковіча ў даверы, хоць такія кандыдаты шчодра адорвалі кіяўлян харчовымі пайкамі і актыўна рамантавалі перад выбарамі дзіцячыя пляцоўкі ў сталічных мікраёнах. Трэба прызнаць, што пасля "аранжавай рэвалюцыі" ў нашых суседзяў шмат што змянілася.

Украінцы ўжо некалькі гадоў жывуць па нормах СГА і мову сваю шануюць, а галоўнае ў іх ужо выбары – гэта канкурэнцыя ідэй і праграм і значна больш моцная і ўплывовая апазіцыя, чым у Расіі і, не кажучы ўжо пра нас. Украінскі парламент мае палітычную вагу, іх "моцны" прэзідэнт вымушаны з гэтым лічыцца. Увогуле сапраўднай сенсацыяй стаў прарыў актывістаў "Свабоды", якія на папярэдніх выбарах не мелі і 1 % падтрымкі. Украінцы маюць, у адрозненне ад сваіх бліжэйшых суседзяў, больш-менш дэмакратычную выбарчую працэдуру, таму і ўсплылі фальсіфікацыі на гэтых выбарах у іх.

Нагадаем, на ўкраінскіх выбарчых участках працавалі відэакамеры ў рэжыме рэальнага часу, былі празрыстыя урны і за справядлівасцю працэса сачылі звыш 177 тысяч назіральнікаў толькі ад канкурыруючых партый. Аднак ва Украіне фальсіфікацыі адбываліся шляхам падмены і порчы выніковых бюлетэней у акруговых камісіях, але яны не змянілі агульны вынік вострага саперніцтва па партыйных спісах, дзе аб'ядналая апазіцыя мае перавагу. Ды і ўкраінскія СМІ ўжо не маналітныя, яны ў асноўным аб'ектыўна асвятляюць праходзячыя ў краіне працэсы.

Праўда, у цэлым улада ў парламенце будзе дыктаваць сваю волю, але болей уносіць змены ў Канстытуцыю ў яе не выйдзе. У цэлым накал палітычнай барацьбы ў нашых суседзяў будзе толькі нарастаць, бо наперадзе ў іх важныя прэзідэнцкія выбары 2015 года. І гэта добра для народа, што існуюць абмежаванні для ўладу трымаючых трымаць пад сваім кантролем і нават падкупляць членаў выбарчых камісій, шырока выкарыстоўваць адміністрацыйны рэсурс.

Ва ўкраінцаў было за што змагацца і той жа Віктар Януковіч добра разумее, што ключ для росквіту яго краіны ляжыць не на расійскіх прасторах, а ў цесным супрацоўніцтве са значна больш тэхналагічным і прасунутым Захадам. У цэлым вынікі гэтых парламенцкіх для ўкраінцаў па вялікаму рахунку зафіксавалі практычна баявую палітычную нічыю і гэта азначае, што братні суседні народ адверг ідэю "моцнай аўтарытарнай рукі" і не даў правячай партыі мець у парламенце сваю большасць, тыпу "Адзінай Расіі", як у рускіх. Украіна ідзе сваім шляхам і не страціла шанцаў увайсці ў перспектыве ў адзіную еўрапейскую сям'ю, а гэта галоўнае.

## Дзень за днём

**Па выніках года рост цэн у дзяржавах ЕС складзе, як і летась, 2,5 %, у Беларусі яны павысяцца прыкладна на 20 % пасля проста шалёнай інфляцыі ў 2011 годзе. Апасаючыся дэвальвацыі , беларусы ў кастрычніку скупілі 281 млн. USD. Ва ўрадзе РБ заявілі, што ў 2013 годзе курс нацвалюты будзе свабодным, а беларусам прыйдзецца жыць па сродках. Урады краін Балтыі лічаць, што адмовіцца ад выкарыстання іх партоў Беларусь прымушае Расія. За апошнія 18 гадоў у РБ змянілі ўжо 7 кіраўнікоў КДБ, перыядычна абнаўляліся і прэм'ер-міністры. Беларусаў парадавала, што на прадстаячыя каталіцкія Каляды яны будуць адпачываць 3 дні, а на Новы год святкаваць 4 дні.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пасля абрання Б. Абамы зноў прэзідэнтам краіну чакаюць самыя цяжкія гады, бо нарастаюць бюджэтныя цяжкасці, дзяржрасходы могуць быць абрэзаны на 600 млрд. USD.

**Кітай**. Праз 10 гадоў на чарговым XVIII з'ездзе Кампартыі правялі ратацыю і амалажэнне кіраўніцтва краіны, расце сацыяльная напружанасць, шырацца акцыі пратэсту беднаты.

**Сірыя.** Яшчэ 7 генералаў урадавых войск перайшлі граніцу з Турцыяй і здаліся яе ўладам у лагеры для ўцекачоў правінцыі Хатай, прэзідэнт Асад заявіў, што адсюль не ўцячэ.

**Іран.** Самалёты Су-25 ВПС краіны беспаспяхова спрабавалі збіць над Персідскім залівам амерыканскі беспілотнік, але ён не пацярпеў і вярнуўся на сваю ваенную базу.

**Катар.** Лідарам аб'яднанай сірыйскай апазіцыі стаў хрысціянін, былы школьны настаўнік Джордж Сабры і ўзначаліць пераходны ўрад у раёнах, якія не кантралюе рэжым Асада.

**Украіна.** Краіна пачала рэверсныя пастаўкі прыроднага газу з Германіі пры дапамозе Польшчы, што нават танней, чым купляць яго ў расійскага манапаліста "Газпрама".

**Польшча.** Праз Стакгольмскі суд-трыбунал краіна дабілася ад Расіі зніжэння цэн на газ (была 500 даляраў, для немцаў – 394 даляры, у міжнародны арбітраж звярнуўся і ўрад Літвы.

**Бельгія.** Еўракамісар Штэфан Фюле ў Брусэлі зноў пацвердзіў, што любыя станоўчыя змены адносін ЕС з Беларуссю залежаць ад вызвалення палітвязняў.

**Расія.** Пасля гучных карупцыйных скандалаў у адстаўку адправілі міністра абароны РФ А. Сердзюкова, на змену прыйшоў генерал МНС, тувінец па нацыянальнасці Сяргей Шайгу.

**Славенія.** Пераможцам 1 тура прэзідэнцкіх выбараў стаў экс-прэм'ер, сацыял-дэмакрат Борут Пахар (41,9 % галасоў), у пачатку снежня тут пройдзе рашаючы тур галасавання.

**Польшча.** У палякаў расце раскол паміж правячымі лібераламі і правай апазіцыяй, 50-тысячны марш нацыяналістаў у Варшаве завяршыўся масавымі беспарадкамі і бойкамі з паліцыяй.

**Германія.** Першыя 15 немцаў атрымалі ордэны "За заслугі", яны будуць уручацца людзям, якія займаліся арганізацыяй уцёкаў і пераправамі жыхароў былой ГДР у Заходні Берлін.

**Расія.** У кіраўніцтве РФ здзівіліся, чаму А. Лукашэнка супраць аб'яднання КамАЗа з МАЗ і гатовы на змену перавалкі грузаў з партоў Балтыі на парты Ленінградскай вобласці.

**Узбекістан.** У сталіцы краіны Ташкенце беларускі холдынг"Амкадор"стварыў свае даччыныя прадпрыемствы са 100 % капіталам у сувязі з ростам попыту на прадукцыю.

**Расія.** З-за хваробы сэрца на 65-м годзе жыцця памёр народны артыст РФ, стваральнік папулярнай тэлепраграмы "Гарадок" Ілля Алейнікаў, ён доўга лячыўся ў бальніцах.

# Паступіць у суворaўскае вучылішча ў Беларусі стала складаней



■ БелТА

**Паступіць у суворaўскае вучылішча ў Беларусі стала складаней, паведамляе карэспандэнт БелТА са спасылкай на ўказ кіраўніка Беларусі ад 20 лістапада № 527, афіцыйна апублікаваны сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Дакумент прадугледжвае змены і дапаўненні ў Палажэнне аб суворaўскім вучылішчы, зацверджанае прэзідэнцкім указам ад 30 снежня 2011 г. № 614.

Раней кандыдат на месца ў вучылішча не дапускаўся да ўступных выпрабаванняў, калі атрымліваў нуль, адзін, два балы падчас праверкі ўзроўню фізічнай падрыхтаванасці. Цяпер планка нядопуску — чатыры балы. Што да навучальных прадметаў, то кандыдат, які атрымаў на першым выпрабаванні нуль, адзін, два балы, да наступных экзаменаў допушчаны не будзе.

«Паўторная праверка ўзроўню фізічнай падрыхтаванасці і здача ўступнага экзамену не дапускаецца», — сказана ва ўказе.

У лік асноўных задач суворaўскага вучылішча цяпер уваходзіць падрыхтоўка суворaўцаў не толькі да паступлення ва ўстановы адукацыі, якія ажыццяўляюць падрыхтоўку кадраў па спецыяльнасцях ваеннага і спартыўнага профіляў адукацыі для Узброеных Сіл, іншых войскаў і воінскіх фармаванняў Беларусі, а таксама кадраў для органаў унутраных спраў, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях, але і для Следчага камітэта.

Непасрэднае кіраўніцтва суворaўскім вучылішчам ажыццяўляе яго начальнік, які прызначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады кіраўніком Беларусі.

Указ № 527 уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сярод кіраўнікоў постсавецкіх рэспублік А. Лукашэнка аказаўся адзіным, хто не павіншаваў з пераабраннем зноў на пасаду прэзідэнта ЗША Барака Абаму.

**Чачэрск.** У вёсцы Раўковічы адкрылі пасля рэканструкцыі адзін з буйнейшых у РБ сучасных свінакомплексаў, пакуль тут пагалоўе 27 тысяч галоў, працу атрымалі 80 чалавек.

**Маладзечна.** Ля трасы на Мінск на плошчы 24 гектары кампанія айчыннага алігарха Ю. Чыжа пачала будаваць самы вялікі ў Беларусі мясакамбінат, ён дасць 800 дадатковых рабочых месц.

**Гродна.** У дэпартаменце "Белаўтадар" прызналі, што на рэканструкцыю дарогі М6 Мінск-Гродна-граніца Польшча грошай пакуль няма, крэдыт трэба знайсці ў замежных банках.

**Лагойск.** На будынак АЗС ля вёскі Дабранёва ноччу напалі двое невядомых і, пагражаючы абрэзам, забралі каля 1 мільён беларускіх і 250 тысяч рускіх рублёў выручкі і зніклі ў цемры.

**Мінск.** Пасля самагубства падпалкоўніка КДБ А. Казака сваёй пасады пазбавіўся галоўны чэкіст РБ генерал-лейтэнант В. Зайцаў, які кіраваў спецслужбай на працягу 4-х гадоў.

**Смалявічы.** Супраць маёра міліцыі, начальніка АБЭЗ мясцовага РАУС і яго памочніка ,капітана міліцыі распачалі крымінальную справу за фальсіфікацыі матэрыялаў праверкі.

**Ліда.** Рэзка раскрытыкаваў А. Лукашэнка фармальнае далучэнне да мясцовага МКК філіялаў са Смаргоні, Навагрудка і Ашмян, што выклікала незадавальненне там людзей.

**Брэст.** Падчас абслугоўвання кліента ў сябе на кватэры затрымалі маладую жанчыну-прастытутку, якая ў асноўны час працавала … у адным з дзіцячых садкоў горада.

**Магілёў.** Вялікі затор утварыўся раніцай на мосце ў горадзе, калі ў выніку дзвюх аварый моцна пацярпелі адразу 20 аўтамашын і пасажырскі аўтобус, на шчасце людзі не пацярпелі.

**Мінск.** Адзін з галоўных ідэолагаў РБ, рэдактар часопіса "Беларуская дума" В. Гігін адкрыта назваў Амерыку "паршывай авечкай", яму забаронены ўезд у ЕС, ЗША і Канаду.

**Курапаты.** Невядомыя ўблюдкі раскідалі ў мемарыяле масавых растрэлаў лістоўкі "Сталін быў правы!", спэцкалі фарбай гранітную лаўку – падарунак ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі.

**Маларыта.** У вёсцы Чарняны днём мясцовы праваслаўны святар па неасцярожнасці збіў на аўто насмерць 85-гадовага вяскоўца, які сабраўся ехаць у Брэст на пахаванне зяця.

**Нясвіж.** У адноўленым мясцовым замку ўпершыню прайшоў Палацавы баль, яго гасцямі сталі больш за 500 чалавек, на працягу 6 гадзін змяніліся 5 эпох, гучаў сімфанічны аркестр.

**Пружаны.** Трое маладых жыхароў вёскі Вялікае Сяло, сярод іх 15-гадовая школьніца, загінулі ноччу ў ДТЗ пасля ўдару ў дрэва, калі ехалі дамоў пасля праводаў у армію.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля выбуху вечарам самаробнага прыстасавання і пашкоджання двух вокнаў будынка абласнога КДБ былі затрыманы трое хлопцаў, з іх адзін ненармальны.

**Шаркаўшчына.** Адзіным у раёне будынкам, аснашчаным пасажырскім і грузавымі ліфтамі, стала пасля адкрыцця новая райбальніца, аб'ект уводзілі на працягу 15 гадоў.

**Наваполацк.** Каля апоўначы двое рабаўнікоў спынілі на вуліцы 60-гадовага мужчыну і сілай забралі ў яго куртку, беспрацоўных мярзотнікаў неўзабаве затрымала міліцыя.

**Бешанковічы.** З-за вельмі моцных дажджоў аказаўся зноў затопленым, як вясной, мост праз раку Ула каля вёскі Ульянаўка, 77 яе жыхароў і 8 школьнікаў плавалі на лодках.

**Гарадок.** Прадпрымальнік з райцэнтра Ірына Антропава ўсяго за год на месцы ўзводзімай 20 гадоў танцзалы адкрыла для моладзі сучасны цэнтр адпачынку з двума кафэ і барам.

**Віцебск.** У вобласці найболей у Беларусі за 10 месяцаў 88 сем'яў беспрацоўных перасяліліся з гарадоў у вёску на новае месца жыхарства і працы пры падтрымцы ўлад.

**Глыбокае.** Сям'я з райцэнтра Дар'і Бельскай з дачкой Таццянай сталі пераможцамі абласнога конкурсу "Сувкецце талентаў-2012" і ў 2013 годзе выступяць у фінале па РБ.

**Полацк.** На мясцовай чыгуначнай станцыі ў адным з крытых вагонаў пагранічнікі і мытнікі знайшлі вялікую партыю кантрабанды: 190 тысяч пачак цыгарэт "Прэм'ер".

**Докшыцы.** На працягу 3-х сутак у вёсцы Вяцера адбыліся два пажары: спачатку згарэлі 7 тон сена і саломы, потым агонь знішчыў дах на кухні і аконную раму ў хаце пенсіянераў.

**Шуміліна.** На тэрыторыі раёна выявілі вялізны самагонны апарат і 775 літраў брагі, каб яго дэманціраваць, супрацоўнікам міліцыі прыйшлося нават разабраць частку печы ў хаце.

**Паставы.** Лялечны тэатр мясцовага РДК "Вытворяшкі" атрымаў Гран-пры абласнога конкурсу "Лялечны свет", яго кіраўнік Алена Слядзеўская – прыз лепшага рэжысёра.

**Талачын.** Па гарачых слядах міліцыя знайшла і затрымала двух беспрацоўных з вёскі Букарэва, якія збілі і абрабавалі вечарам свайго земляка, 82-гадовага пенсіянера.

**Глыбокае.** У каналізацыйным калодзежы знайшлі мёртвым 40-гадовага сантэхніка, раней тут сёлета загінулі рабочы ПМК і малады будаўнік з Віцебска пры падзенні з вышыні.

**Расоны.** Штрафам у памеры 3 млн. рублёў пакараў суд 19-гадовага жыхара райцэнтра, які позна вечарам у кампаніі сяброў расстраляў з пнеўмапісталета дзверы гандлёвага цэнтра.

**Браслаў.** У суседнім Ігналінскім раёне Літвы зноў затрымалі групу з 21 нелегала, в'етнамцаў і афганцаў, якія праз азёрны край перайшлі граніцу і папрасілі прытулку ў ЕС.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



■ **Аляксандр Івашчонак**, *бакалаўр гісторыі, архівіст, г.Нэапаль, Італія.*

**Публікацыя захоўвае правапіс і стыль аўтара.**

**Ад рэдакцыі.** Нагадаем ізноў нашым чытачам, што да 1842 года мястэчка Глыбокае было самастойным паселішчам і знаходзілася вакол цяперашняга пляца 17 Верасня (тады пляц Рынак) на фоне двух храмаў, якія існуюць і сёньня. За рэчкай Беразвіцай быў горад Глыбокае, цэнтрам якога быў, таксама Рынкавы пляц (на яго месцы цяпер знаходзіцца 7-паверхавы Дом Саветаў).

# У працяг тэмы: Мястэчка Глыбокае

## Рымскі эпізод у гісторыі мястэчка Глыбокае

Усім нам добра вядома, што вельмі цяжка прымусіць гаварыць гісторыю, калі яна сама гэтага ня хоча. Аднак гэтым разам нам пашанцавала – гісторыя прамовіла, па праўдзе не вельмі ахвотна, але прамовіла. У гэтым артыкуле я хачу вам распавесьці пра новую знаходку, якая станецца вельмі каштоўным кавалачкам у гістарычнай мазаіцы першай паловы XVII ст. мястэчка Глыбокага.



Помнік Язэпу Корсаку на Алеі Славы ў Глыбокім, які ўсталяваны да Дня беларускага пісьменства і друку ў 2012 г.

Пішучы кнігу пра апошнюю волю Язэпа Корсака[1], мне патрапіўся адзін вельмі цікавы дакумэнт таго перыяду, пра які і прагну вам распавесьці, а менавіта: **«Ліст з Рыму, пісаны Панам Геранімам Корсакам да Яго Міласьці Пана Ваяводы Мсьціслаўскага ў справе вялебных айцоў Кармэлітаў Глыбоцкіх»** (*у арыгінале Z Rzymu list przez P. Hieronima Korsaka do JM P. Wojewody Mścisławskiego w interesie ww oo Karmelitów Głębockich pisany.)*, дзеля большай практычнасьці гэты дакумэнт буду называць – Ліст Гераніма Корсака.

Гэты дакумэнт першапачаткова знаходзіўся ў манаскім архіве пры кляштары Кармэлітаў у Глыбокім. Пра гэта сьведчаць архівальныя нататкі на самым Лісьце – 4-ая штука, 14-ты нумар, літара А. У кляштарным архіве ў Глыбокім пад літарай А знаходзіліся найважнейшыя дакумэнты, напрыклад, уласьніцкія, маёмасныя і гд. Такім чынам Ліст Гераніма Корсака быў 4-ым з 8 дакумэнтаў, якія былі пазначаныя літарай А. Дарэчы ўвесь гэты архівальны апарат сьведчыць ня толькі аб верагоднасьці нашага дакумэнту, але таксама гаворыць аб тым, што гэты дакумэнт паходзіць з Глыбоцкага Архіва Кармэлітаў Босых.

Варта дадаць, што гэты дакумэнт ня быў сам, а меў пры сабе яшчэ адзін дакумэнт, а менавіта: **«Рэкогніта[2] на грошы ўзятыя панам Корсакам у Рым»** (*у арыгінале Recognita od p. Korsaka do Rzymu wzięte na pieniądze)*, дзеля практычнасьці далей гэты дакумэнт буду называць – рэкогнітай (распіскай, засьведчаньнем). Гэтая рэкогніта таксама знаходзілася ў кляштарным архіве Кармэлітаў у Глыбокім і мела сваю архівальную аднатацыю – 3-я штука, 14-ты нумар, літара А.

Гэтая рэкогніта (3-я штука) ў архіве знаходзілася перад Лістам Гераніма Корсака (4-я штука), так як храналагічней рэкогніта паўстала перш, чым ліст з Рыму. Дарэчы, каб ня мучаць чытача празмернай колькасцю архівальнай інфармацыі варта зьвярнуцца да арыгіналу.

Ніжэй падаю пераклад рэкогніты на беларускую мову:

*“Я, Геранім Корсак, засьвядчаю гэтай маёй рэкогнітай, што ў тысяча шэсьцьсот саракавым годзе сямнаццатага чэрвеня Яснавяльможны Яго Міласьці Пан Язэп Корсак Мсьціслаўскі ваявода, староста таго ж ваяводзтва і Дзісьненскі і гд., даў мне дзьвесьце чырвоных злотых, гэтыя грошы зараз прыехаўшы ў Рым я павінен буду аддаць ва ўласныя рукі Яго Міласьці Ксяндза Рафала Корсака, Мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсяя Русі, дзеля ўласных спраў вышэй успомненага Яснавяльможнага Яго Міласьці Пана Ваяводы Мсьціслаўскага. Дзеля лепшай пэўнасьці даю гэтую маю рэкогніту з подпісам уласнай рукі, што не распушчу на свае іншыя патрэбы, але самаму Яго Міласьці Ксяндзу Мітрапаліту ва ўласныя рукі на справы Яго Міласьці аддам.*

*У Ластавічах, тысяча шэсьцьсот саракавога году, дня сямнаццатага чэрвеня.*

***Геранім Корсак уласнай рукой”***

Як бачна тэкст самага дакумэнта ясна гаворыць аб тым, што быў ён пісаны ў Ластавічах – сядзібе Язэпа Корсака, бо, як вядома, прынамсі, апошнія гады свайго жыцьця Корсак правёў менавіта ў Ластавічах. Ужо пачынаючы ад 1639 г., а можа і раней Корсак, стала жыў у Ластавічах, дадаткова пра гэта сьведчыць і той факт, што амаль усе корсакаўскія дакумэнты тых гадоў датуюцца менавіта ў Ластавічах, якія сьмела можна назваць сталіцай маёнткаў Язэпа Корсака.

Вяртаючыся да нашага дакумэнта, то варта зьвярнуць увагу на дату гэтай рэкогніты (распіскі) – 17 чэрвеня 1640 г. Пра што гэтая дата можа нам распавесьці?

Як вядома 29 лістапада 1639 г. Язэп Корсак зрабіў першы запіс сваіх маёнткаў на карысьць Кармэлітаў. Аднак гэты запіс быў у неадпаведнасці з манаскімі статутамі Кармэлітаў. На падставе гэтай рэкогніты можна здагадацца, што гэтымі 200 чырвонымі злотымі Корсак жадаў схіліць гэнэрала (гэнэральнага настаяцеля) Кармэлітаў, які ў той час знаходзіўся ў Рыме, каб ён згадзіўся на варункі, якія дадзеныя фундатарам. Сёньня мы б назвалі гэта хабарам (“узяткай”), аднак у тыя часы гэта было штодзённай і нармальнай справай. Каб лепш зразумець ментальнасьць той эпохі, то варта зьвярнуць увагу, каму Язэп Корсак кажа перадаць гэтыя грошы – вуніяцкаму мітрапаліту Рафалу Корсаку. Кажучы прасьцей: Язэп Корсак папрасіў Гераніма Корсака, каб той завёз 200 злотых у Рым мітрапаліту Рафалу Корсаку, каб той у сваю чаргу даў іх гэнэралу Кармэлітаў, каб ён згадзіўся на варункі Язэпа Корсака.

**Тут бачна веліч Язэпа Корсака – шляхціч, ваенны стратэг, багабоязны і набожны фундатар, вытанчаны дыпламат. Дзейнасць на сэймах, стасункі з каралямі, біскупамі і Рымам. І гэта – чалавек, які бавіў сваё жыццё ў Ластавічах!**

Можа паўстаць пытаньне – адкуль вядома, што гэтыя грошы меліся трапіць у рукі гэнэрала Кармэлітаў, пра якога дакумэнт маўчыць? Адказ павінен быць лагічны – Язэп Корсак зацьвярджаючы новы тэстамэнт 29 лістапада 1639 г., дзесьці на пачатку 1640 атрымаў адказ ад Кармэлітаў, што гэта ягоная фундацыя не стасуецца з манаскімі статутамі. Адзіным, хто б мог даць згоду на новую фундацыю, быў гэнэрал Кармэлітаў у Рыме. Язэп Корсак, ведаючы, што ў тым часе ў Рыме быў мітрапаліт Рафал Корсак, пастанавіў выкарыстаць сытуацыю і выслаў у Рым Гераніма Корсака, якому наказаў перадаць 200 злотых ва ўласныя рукі мітрапаліту на справы Язэпа Корсака.

Менавіта тут бачна веліч Язэпа Корсака – гэты чалавек быў непаспалітай асобай – шляхціч, ваенны стратэг, богабаязны і набожны фундатар, але таксама і вытанчаны дыпламат – яго дзейнасьць на сэймах, стасункі з каралямі, біскупамі, нават з Рымам і гэта чалавек, які бавіў сваё жыцьцё ў Ластавічах у першай палове XVII ст. Неверагодна!

Вяртаючыся да нашага дакумэнта, то варта падкрэсьліць, што ў гэтай далікатнай справе Язэп Корсак карыстаўся дапамогай сям'і – Гераніма Корсака і мітрапаліта Кіеўскага Рафала Корсака. Заўважу, што Язэп Корсак занадта не давяраў нават родзічам, бо Гераніму Корсаку, казаў напісаць гэтую рэкогніту (распіску), дзякуючы якой мы ведаем аб усёй гэтай гісторыі.

Што ж сталася далей? На жаль, дакладна не вядома. Аднак штосьці можна даведацца. Як вядома, мітрапаліт Рафал Корсак памёр 28 жніўня 1640 г. Геранім Корсак мог выехаць з Ластавіч не раней, чым 17 чэрвеня. Ці змог ён даехаць у Рым перад 29 жніўня і ці аддаў грошы мітрапаліту? Адказ адназначны – не!

Адкуль гэта вядома? З Лісту Гераніма Корсака, які ён выслаў з Рыму “orem oga” (вось вось/толькі што) 8 сьнежня 1640 г. Гэта азначае, што ў Рым ён ехаў каля 4 месяцаў – уявіце сабе падарожжа з Ластавічаў у Рым у XVII ст., як бачна, дзеля Корсакаў не было рэчаў немагчымых.

З лісту Гераніма можна даведацца аб тым, што падчас свайго падарожжа ў Рым ён вельмі цяжка захварэў і амаль, як піша ён сам, “не пайшоў шляхам слаўнай памяці Мітрапаліта”. Як бачна, мэта падарожжа Гераніма ў Рым – зьнікла. Уявіце сабе, чалавек едзе ў Рым аж з Ластавічаў, каб перадаць грошы мітрапаліту, а прыехаўшы ў Рым ледзьве жывым, даведваецца аб тым, што мітрапаліт ужо 2 месяцы як памёр – хопіць толькі гэтага, каб можна было напісаць прыгодніцкі раман!

Далей у сваім лісьце Геранім піша аб тым, што ён сам асабіста пайшоў да гэнэрала Кармэлітаў у справе новай фундацыі ў Глыбокім, на што атрымаў адказ ад гэнэрала, што ён дасьць згоду, толькі калі атрымае на гэта просьбу ад правінцыяла польскай правінцыі Кармэлітаў босых у Кракаве. Акрамя таго Геранім Корсак раіць Язэпу Корсаку, каб той напісаў ліст да правінцыяла ў Кракаў, каб той у сваю чаргу напісаў просьбу да гэнэрала і перадаў яе праз кракаўскага раднага пана Пётркоўчыка.



**Герб «Корсак»**

Як бачна, Геранім Корсак вельмі добра парадзіў сабе з прыбываньнем у Рыме, нават патрапіў пазнаць пана Пётркоўчыка і гд. Аднак варта падкрэсьліць, што ў тыя часы такая б бюракрацыя прадоўжылася б каля году, як не даўжэй.

Вяртаючыся ў Ластавічы, то там ужо ўсё зьмянілася. Язэп Корсак, ня могучы дачакацца адказу з Рыму, 20 верасьня 1640 г. напісаў новы тэстамэнт на карысьць Кармэлітаў, зьмяняючы тыя фрагмэнты, якія былі ў неадпаведнасці з манаскімі статутамі, аб чым Геранім змог даведацца не раней, чым на пачатку 1641 г., таму ён вярнуўся на радзіму дзесьці ўлетку 1641 г. На жаль, уся гэтая выправа ў Рым не прынесла аніякіх вынікаў, можа таму гісторыя засыпала яе пылам і аніякая крыніца пра яе не згадвае.

Падсумоўваючы, варта падкрэсьліць вагу новазнойдзеных дакумэнтаў, так як асьвятляюць невядомы раней “рымскі” эпізод у гісторыі мястэчка Глыбокае, а таксама веліч думкі і чыну Язэпа Корсака. Дадам, што гэтыя два дакумэнты такім чынам першы раз трапляюць да гісторыяграфіі Глыбокага, а таксама гісторыкаў, краязнаўцаў і аматараў гісторыі, між іншым, дзякуючы гэтай публікацыі ў «Вольным Глыбокім».




**Лакалізацыя маёнтка Ластавічы паводле мапы сярэдзіны XIX ст. Адзначаны як «Госп(одский) д(ом) Ластовицы».**

**На мапах 1930 гг («за польскім часам») маёнтак не адзначаны, г.зн, ужо не існаваў.**

Цікава, што ў вёсцы Лаўрынаўка адзначаны вадаём, які сёньня не існуе. Зьдзіўляе, што на мапе не адзначана вёска Ластавічы (альбо інакш Ластавец), дзе здаўна жылі стараверы, гэта пры тым, што на мапе адзначаныя розныя дробязі: масткі, могілкі (Кл.) усе дарогі, ледзьве не сьцежкі.

---

[1] У прыгатаваньні да друку А. Iwaszczonek, **Ostatnia wola Józefa Korsaka** (на польскай мове).

[2] Рэкогніта (лац. recognita) – ад лац. праверыць – пасьвядчэньне, свайго роду расьпіска, на падставе якой можна было ўдаводніць у судзе.

**Мар'ян Дукса**

О, Міласэрная Матуля,
Пусці ў свой Вастрабрамскі Храм.
Мы да Цябе ўсе беды тулім,
Ты ж успамогу дорыш нам.

Заўжды была ў вялікай хвале.
Высока ўзнёс Пан Бог Цябе.
А мы нязменна называлі
Матуляй літасці ў журбе.

Праз дзверы Брамы Ты міжволі
Глядзіш на наш штодзённы тлум.
Ты знаеш нашы смуткі, болі
І глыбіню таемных дум.

Хто не шукаў Тваёго ратунку!
Ў Цябе хто ласкі не прасіў!
Будзь нашай добрай Апякункай,
Каб злы нас дух не спакусіў.

Твой вобраз зноў перад вачыма,
З Табой мы ў радасці, журбе.
І не спужаемся бяды мы,
Пакуль хінёмся да Цябе.



# Беларуская Вострая Брама ў Мосары: вернікі ўшаноўвалі Маці Міласэрнасці падчас "Дзён апекі" Маці Божай Вастрабрамскай



Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні ўшаноўваецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы, асабліва даўняй Віленшчыны. На землях даўняй Віленшчыны яе абраз знаходзіцца ў шматлікіх святынях і дамах вернікаў, як каталіцкіх, так і праваслаўных.

Жыхары парафіі і вернікі з наваколля асаблівым чынам ушаноўваюць Божую Маці з Вострай Брамы і ружанцовая малітва каля капліцаў у кастрычніку была добрай духоўнай практыкай і натхненнем для пераджыцця штогадовых "Дзён апекі Маці Божай".

Як у Вільні, так і ў Мосары, - беларускай Вострай Браме - у капліцы Маці Міласэрнасці, штогод праходзяць дні "Апекі" Маці Божай і малітва Навэнны.

У гэтым годзе дні "Апекі" праходзілі з 7 па 16 лістапада 2012 года пад дэвізам: "Вера і Міласэрнасць – дар і заданне".

Штодзённа раніцай вернікі дзякавалі Маці Вастрабрамскай за шматвекавую апеку жыхароў нашых земляў у часы войнаў, эпідэмій хваробаў і іншых навалаў, спяваючы Гадзінкі. А пасля абеду, у гадзіну міласэрнасці, маліліся на ружанцы каля капліцаў, малітвы навэнны і літанію да Маці Божай Міласэрнасці, а ў 17 гадзін перад абразом Божай Маці збіраліся на Святую Літургію з навукай на тэмы веры і міласэрнасці.

Пасля заканчэння навэнны, 16 лістапада, адбыліся Урачыстасці ў гонар Маці Міласэрнасці, падчас якіх айцец Вальдэмар Куява, францішканін з Удзела, у гаміліі нагадаў пра веру Марыі, як узор для нас, і прыпомніў гістарычныя падзеі, звязаныя з апекай Божай Маці нашага народу.

Святкаванне і ўшанаванне "Апекі" Маці Божай працягвалася і ў суботу, 17 лістапада, на ўрачыстай Святой Імшы пры адкрытым вакне капліцы. Маці Міласэрнасці сабрала нас на Урачыстую Еўхарыстыю – падзяку за Яе нябесную апеку.

Прыгожае восеньскае надвор'е натхняла прысутных на малітву і, падчас Літургіі, ксёндз Аляксандр Грыцкевіч, са славутай і старажытнай Дзісны, звярнуў увагу на мацярынскі клопат Багародзіцы Марыі ў нашым штодзённым жыцці, у звычайных простых справах і падзяліўся сваім досведам адчування Яе прысутнасці. Пасля прыняцця благаслаўлення вернікі падыходзілі да святога абраза ў капліцы, каб пакланіцца і ўшанаваць Багародзіцу.

Абраз Маці Божай Вастрабрамскай знаходзіцца ў капліцы са старажытнага разбуранага барэйкаўскага касцёла, і вельмі шанаваны вернікамі. Капліца была пабудавана па ініцыятыве памерлага ксяндза Пралата Юозаса Булькі ў 1996 годзе, як адзіная на Віленшчыне, так і на ўсёй Беларусі.

У гэтым 2012 годзе, дзякуючы ахвяраванням людзей і дапамозе мецэнатаў, як у касцёле, так і ў капліцы Вастрабрамскай, быў зроблены звонку грунтоўны касметычны рамонт, хоць яшчэ, на жаль, не стае святла ў капліцы, таму асабліва падчас "Дзён апекі" Маці Божай Вастрабрамскай складаем падзяку да стопаў Маці Нябеснай і ўзносім малітву за нашых ахвярадаўцаў і мецэнатаў, за ўсе Божыя ласкі і апеку, і просім у год Веры за ўсіх нашых інтэнцыях Божую Маці: бараніць нашыя сем'і, моладзь і дзяцей ад спакусаў, якія нясе секулярызаваны свет, бараніць наш беларускі народ ад знішчэння грахом і заганамі, асабліва аб дары цвярозасці.

Кожны чалавек, кожная сям'я мае за што асабіста падзякаваць Богу праз Марыю: за дзяцей, сям'ю, працу, хлеб штодзённы, Божыя ласкі ў жыцці… Усе прысутныя свае малітвы-падзякі і ўласныя інтэнцыі-просьбы Богу і Маці Міласэрнасці з глыбіні сэрцаў узносілі на Неба.

З Божым благаслаўленнем і на наступны год яшчэ больш годна і прыгожа ўшануем Міласэрную Маці, якая ўсіх чакае ў Мосары і ахінае Сваёй апекай!!!

Падрабязная інфармацыя на сайце: http://mosar.vickyblog.com

**Ксёндз Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар.*

**30 лістапада г.г. пройдзе Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам:**

# «Хутка зіма – рыхтуемся разам!»

**Машаракін А.Н.,** *ст. лейтэнант міліцыі, часовы выканаўца пасады старэйшага інспектара ДПС ДАІ Глыбоцкага РАУС.*

Шмат у чым дарожнае становішча ўскладняюць і ўмовы надвор'я, а ў надыходзячым годзе зіма плануе ўжо паднесці нямала неспадзевак у выглядзе багатых снегападаў, завей і рэзкіх ваганняў тэмпературы паветра. Безумоўна, што ў такой сітуацыі бяспека руху залежыць ад узроўню майстэрства таго, хто знаходзіцца за рулём аўтамабіля. Аднак нават першакласны кіроўца не заўсёды зможа выйсці з аварыйнай сітуацыі. Тут парой не дапаможа і самая дасканалая тэхніка кіравання. І гарантый на тое, што вам атрымаецца пазбегнуць аварыі, не дасць ніхто, але спрагназаваць загадзя магчымае развіццё падзей на дарозе кіроўца можа.

Як сведчыць практыка, у кіроўцаў да зімовага сезону некалькі губляюцца навыкі кіравання транспарту ў складаных кліматычных умовах, многія не рыхтуюць сябе псіхалагічна да такіх паездак, а ў выніку дапушчаюць памылкі. Таму, улічваючы вышэйсказанае, Дзяржаўтаінспекцыя раіць, па магчымасці, не выпрабоўваць лёс і не адпраўляцца ў шлях у такое надвор'е. Ну, а тым, хто ўсё ж такі рызыкнуў паспрачацца з надвор'ем, хацелася б даць пару практычных парадаў:

Ні ў якім разе не выязджайце са зношаным малюнкам пратэктара колаў, а пры магчымасці змяніце летнія шыны на зімовыя, бо ўжо пры 7 градусах ніжэй нуля, гума летніх шын пачынае «грубець», а значыць, знікае моцнае счапленне аўтамабіля з дарогай!

**Кожны кіроўца ні на секунду не павінен забываць пра адну праўду: чым вышэй хуткасць, тым больш шанцаў патрапіць у бяду.**



Асабліва небяспечна перавышэнне хуткасці ў халодны перыяд часу, калі на дарогах галалёд.

Галалёд на дарозе – гэта свайго роду стыхійнае бедства. Менавіта галалёд дае найменшае счапленне колаў аўтамабіля з дарожным пакрыццём, а тармазны шлях пры гэтым павялічваецца ў параўнанні з сухім пакрыццём амаль у 10 разоў пры адной і той жа хуткасці. Варта памятаць і пра тое, што на гладкім лёдзе не заўсёды дапамагае пасыпка дарогі пяском, бо ён скатваецца коламі аўтамабіляў ці змятаецца ветрам. Таму кіроўцы павінны быць напагатове, каб не паддацца памылцы аб няслізкасці падобнай дарогі. Часцей за ўсё пасыпаюцца абледзянелыя ўздымы. Іх варта пераадольваць на трохі падвышанай хуткасці, з разгону, каб дасягнуць вяршыні ўздыму без пераключэння хуткасці, бо гэта рэзка зменшыць хуткасць, і колы могуць забуксаваць, што абавязкова прывядзе да заносу аўтамабіля, а часам і да неабходнасці спуску ўніз.

Разам з тым, зніжэнне хуткасці – гэта яшчэ недастатковая мера засцярогі. Імкніцеся праглядаць дарогу як мага далей наперад, вучыцеся прадбачыць усё, што можа прымусіць вас рэзка спыніцца ці змяніць накірунак руху. Заўсёды памятайце пра неабходнасць вытрымліваць бяспечную дыстанцыю. Ільвіная доля ўсіх здарэнняў адбываецца менавіта па гэтай прычыне, (дарэчы, ва ўмовах абледзянення дарогі дыстанцыя паміж аўтамабілямі павінна адпавядаць падвоенай хуткасці руху).

Пры руху па абледзянелай дарозе галоўнае - пазбегнуць прабуксоўкі ці заносу, якія небяспечныя з'ездам у кювет, а то і перакульваннем. Пачынаць рух у такіх умовах спецыялісты рэкамендуюць на другой ці трэцяй перадачы. На паваротах тармажэнне і паскарэнне ні ў якім разе не дапушчальныя.

У выпадку, калі Вы ўсё ж патрапілі ў занос, то неабходна неадкладна спыніць тармажэнне, а руль плыўна, але хутка павярнуць у бок заносу, а затым ізноў прытармазіць.

Ва ўмовах галалёду дасведчаныя кіроўцы раяць тармазіць «рухавіком», гэта значыць, не выціскаючы счаплення, плыўна націсніце на педаль тормазу і рабіце пругкія рухі. Адчуўшы, што рухавік глухне, выцісніце счапленне, а рухавік хай працуе на малых абаротах.

Спадзяемся, што дадзеныя парады дапамогуць вам у складаных сітуацыях. Будзьце ўважлівыя на дарозе!

## Віншаванкі

*Ганну Аляксандраўну Наўмец*

**віншуем з юбілеем!**

Долгих лет и крепкого здоровья,
Силы, мудрости и красоты!
Пусть всегда, не только в День рожденья,
Исполняются заветные мечты.

*Сваты Паварэнь*

**Віншуем з Юбілеем**

*Ганну Аляксандраўну Наўмец*

Единственной, родной, неповторимой
Мы в этот день спасибо говорим.
За доброту, за сердце золотое тебя благодарим.
Пусть года не старят тебя.
Здоровья, добра, живи долго, ты нам очень нужна.

*Сын Саша, нявестка Вольга, унучак Даніла.*

# Да Новага года сіноптыкі прадказваюць лёдастаў

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Хутка наступіць доўгачаканая шматлікімі рыбаловамі-аматарамі зіма, але лёду на азёрах усё няма, аднак да Новага года сіноптыкі прадказваюць лёдастаў і можна будзе лавіць рыбу з лёду вудай або жарліцамі. У сувязі з чым, лічым неабходным нагадаць, што і на зімовай рыбалцы неабходна выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь. Да прыкладу, нельга лавіць рыбу больш, чым на 10 кручкоў адначасова, за выключэннем вадаёмаў адмыслова вылучаных для вядзення інтэнсіўнага рыбалоўства. (ад 10 да 20 кручкоў), кідаць смецце на лёд, ажыццяўляць уезд ці перасоўванне па ледзяным полазе на механічных транспартных сродках, ажыццяўляць лоўлю рыбы, на якую ўведзена забарона ў дадзены перыяд (мянтуз звычайны з 25 снежня па 28 лютага), лоўлю рыбы ў якасці прынады для лоўлі іншых відаў рыбы не больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі, можна выкарыстоўваць багорык з шырынёй кручка (адлегласць ад цаўя да ляза джала) не больш за 9 см.

Паводле рашэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 26 лютага 2010 года № 243 для вядзення інтэнсіўнага спосабу лоўлі рыбы штогод з 1 чэрвеня ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў у светлы час сутак вылучаны наступныя вадаёмы: **Алойзберг, Сетаўскае, Вялец, Арэхаўскае, Мядзвёдкаўскае, Акунёўскае, Вялікі Супонец. Дварэцкае, Забельскае, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Івесь, Псуя, Станульскае, Мушкат, Камінскае.**

Пры лоўлі на ўказаных вадаёмах інтэнсіўным спосабам рыбалоў абавязаны мець пры сабе квіток рыбалова, яго можна набыць у Глыбоцкім раённым таварыстве паляўнічых і рыбаловаў. У выпадку адсутнасці квітка рыбалова ці пры яго наяўнасці, але з няплатай штогадовай мыты, грамадзяне нясуць адміністрацыйную адказнасць па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

На тэрыторыі раёна маюцца арандаваныя вадаёмы, дзе арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, гэта азёры: Карпінскае і Бярозаўскае, якое арандуецца СФГ «Карпікі»; возера Крывое-1 паблізу в. Лявонавічы, якое арандуецца ТАА «Сервік»; возера Чачалі, што арандуецца ПП «Аграбізнескансалт»; возера Свядаўскае, якое арандуецца ФГ «Свідава»; возера Гулідаўскае, што арандуецца ТАА «Старт» Мінскага раёна.

Усе даведкі пра аплату можна высветліць у арандатараў вадаёмаў.

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна можна вольна лавіць рыбу вудамі і жарліцамі з агульнай колькасцю кручкоў, якія не перавышаюць 10 штук (9 жарліц і 1 вуда).

Нагадваем усім рыбаловам аматарам пра строгае выкананне правіл рыбалоўства, вылоўліванне асобных відаў рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, напрыклад шчупак не меней 35 см., а таксама вага вылаўленай рыбы не павінна перавышаць норму 5 кг. у суткі на аднаго рыбака. За вылоўліванне рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры або вагу, якая перавышае ўсталяваную правіламі норму, настае адміністрацыйная адказнасць па ч.2 ст. 15.35 Ко АП Рэспублікі Беларусь ад папярэджання да 20 базавых велічынь з пакрыццём шкоды (за 1 маламернага шчупака 100 тыс. рублёў).



Просьба не забываць, што з наступам зімы лёд яшчэ вельмі слабы і неабходна памятаць пра меры засцярогі. Вазьміце з сабою шнур, вяроўку, дошку, не ідзіце адзін на рыбалку паблізу месцаў, дзе працякае рака, маюцца крыніцы і г.д., не пакідайце пасля сябе на лёдзе смецце, шкляны посуд, пакеты, захоўвайце чысціню лёду.

Просьба да рыбаловаў-аматараў: не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю Вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжрайінспекцыі, пры змене дзейсных Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ці іншага заканадаўства, якое рэгламентуе дадзеныя правілы, уся інфармацыя будзе змешчана ў сродках масавай інфармацыі.

Паспяховай усім рыбалкі! Пра ўсе парушэнні можна паведамляць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Смяротная небяспека!



■ **А.С. Крывёнак,**
*дзяржінспектар Энерганагляду.*

**Адной з самых характэрных прычынаў узнікнення няшчасных выпадкаў з'яўляецца самавольнае пранікненне ў электраўстаноўкі.**

02.06.2012 года на дыспетчарскі пункт дзяжурнага дыспетчара паступіў сігнал тэлесігналізацыі «Зямля 1-ой СШ-35 кв ПС110 кв «Петрыкаў». Навочны сведка няшчаснага выпадку, які праходзіў міма тэрыторыі ОРУ ПС 110 кв «Петрыкаў», паведаміў дзяжурнаму дыспетчару пра трапленне невядомага хлопчыка пад напругу на тэрыторыі падстанцыі.

Дзіця самавольна пракралася за агароджу адкрытай размеркавальнай прылады электрычнай падстанцыі «Петрыкаў». Пры набліжэнні на недапушчальную адлегласць да токаводных частак, якія знаходзіліся пад напругай, у выніку ўздзеяння ўзнікла электрычнай дугі, школьнік атрымаў цяжкія апёкі галавы і канечнасцяў.

Прычынай няшчаснага выпадку стала грэбаванне смяротнай небяспекай, якую ўтойвае электрычны ток.

Каб пазбегнуць выпадкаў паразы электрычным токам, будзьце ўважлівыя, знаходзячыся побач з электраўстаноўкамі, ні ў якім разе не пранікайце ў іх. Памятайце асноўныя правілы электрабяспекі, растлумачвайце іх дзецям.

## МНС інфармуе на 27.11.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1027;
Гібель людзей – 140, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5393.5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 42;
Гібель людзей – 9, з іх дзяцей няма;
Урон – 298 150 000 руб.

# Усю ноч інспектары назіралі за возерам

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Апошнія дні восені, вільготна і холадна, прырода нібы замерла ў чаканні зімы. Здавалася б, і аматары палавіць рыбу забароненымі прыладамі рыбалоўства павінны трохі супакоіцца, але перад лёдаставам, браканьеры спрабуюць сарваць куш, аднак не заўсёды і не ва ўсіх гэта атрымліваецца.**

22 лістапада 2012 года рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі знаходзілася ў чарговым прыродаахоўным рэйдзе. На вуліцы цёмна і ціха, абследаваўшы паляўнічыя ўгоддзі на тэрыторыі Пастаўскага раёна, каля 1 гадзін ночы група накіравалася на возера Свідна ў в. Дунілавічы Пастаўскага раёна. Усю ноч інспектары назіралі за возерам, і вось каля 5 гадзін раніцы пачулі воплескі вады, пад полагам ранішніх змрокаў па возеры плыла лодка. Што можа рабіць такой цемрай чалавек на возеры? Чаканне і назіранне больш гадзіны за лодкай, а затым затрыманне рыбака дало адказ на пытанне. Затрыманы жыхар в. Дунілавічы грамадзянін Н., даставаў сеткі ў возеры, пры аглядзе мяшка знайшліся дзве сеткі і рыба. У народзе кажуць, хто рана ўстае, таму Бог падае, сёння хтосьці ўстаў раней, нават не клаўся,

А вось госць нашага раёна, жыхар г. Наваполацка грамадзянін К., 24 лістапада 2012 года, прыехаўшы да сябе на дачу ў в. Доўгае, вырашыў схадзіць на паляванне, паляўнічая пуцёўка на пушных звяроў у яго мелася. Толькі вось страляць зайцаў карцечай №8,5 па правілах палявання забаронена, але наш госць думаў інакш. Чытаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання яму навошта? Ён сам сабе закон! Законапаслухмяныя паляўнічыя ведаюць добра, што кулі і карцеч дазваляецца выкарыстоўваць толькі пры паляванні на капытных жывёл, а на пушнога звера можна толькі шротавыя патроны. Інспектары затрымалі госця-паляўнічага і склалі адміністрацыйны пратакол, а рашэнне вынесе раённы суд. Пакаранне, якое прадугледжана заканадаўствам, ад 10 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем права палявання і канфіскацыяй прылад палявання.

## Віншаванкі

*Марыну Іосіфаўну Аніськову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей, и нежной, и самой красивой,
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессилье.
Пусть сбудется все, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!

*Калектыў "ВГ"*

## Падзяка

Выказваем шчырую падзяку ўрачу-генікологу **Алене Мікалаеўне Скварцовай**, акушэру-генікологу **Людміле Іванаўне Заяц**, медыцынскай сястры **Таццяне Васільеўне Валабуевай**, а таксама ўсяму медыцынскаму персаналу радзільнага аддзялення Глыбоцкай ЦРБ за іх высокі прафесіяналізм у іх нялёгкай, але такой патрэбнай і пачэснай працы, за іх клапатлівыя рукі. Жадаем Вам моцнага здароўя і цярпення, паразумення і правільных рашэнняў, доўгіх год жыцця і ўсяго самага найлепшага. Няхай збываюцца ўсе Вашы мары і надзеі.

***З павагай Г. І. Радзішэўская, О. М. Лысёнак, А. О. Протас, Т. Г. Запальская.***

# Гонар снайперскай справы працоўных калектываў Глыбоцкага раёна

■ **Яўген Самсонаў**

**24 лістапада ў будынку Глыбоцкага ЦФАП праходзілі спаборніцтвы па стральбе сярод працоўных калектываў Глыбоцкага раёна, якія ўваходзяць у праграму круглагадзічнай раённай працоўнай Спартакіяды.**

Заявак на ўдзел у спаборніцтвах за званне самых трапных стралкоў раёна было пададзена небагата – толькі сем. Улічваючы, што звыш паўсотні працоўных калектываў раёна, у тым ліку 16 СВК прымаюць удзел у працоўнай Спартакіядзе – гэта, скажам прама, мізэр.

Тым не менш, пераможцы і прызёры вызначыліся.

У асабістым заліку сярод жанчын Марына Аніськова (Ліцэй), Наташа Бахір (Аўтапарк № 16) і Людміла Чурко (Мясакамбінат) выбілі аднолькавы лік ачкоў і па самаму трапнаму стрэлу занялі адпаведна 1,2 і 3 месцы.

Сярод мужчын лепшым снайперам прызнаны Алег Мароз (Мясакамбінат), другое месца заняў Андрэй Дзікавіцкі (Камбікармовы з-д), а трэцім прызёрам стаў Зміцер Лук'янёнак (ЖКГ).

У камандным заліку з вялікім адрывам перамагла каманда "Мясакамбінат", на другім месцы – каманда камбікармовага завода, а дружная каманда з аўтапарка № 16 - на трэцім месцы.



**Пераможцы спаборніцтваў.**

